*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

№ 10(20) • 24—30 КРАСАВІКА 1991 • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)



## ДА 110-годдзя з дня нараджэння Усевалада Ігнатоўскага

Янка Купала прысвяціў вучонаму верш, які ў такой рэдакцыі, як мы яго падаём, быў надрукаваны толькі аднойчы: у 1924 годзе ў часопісе «Полымя» № 4—12. У 30-я гады, калі пачаліся ганенні на «нацдэмаў», Усевалад Ігнатоўскі загінуў, і верш Я. Купалы таксама быў рэпрэсіраваны. Ва ўсіх пазнейшых выданнях ён друкаваўся без прысвячэння. Прыйшоў час прачытаць яго ў першародным выглядзе.

*Янка КУПАЛА*

## НАШ ЛЕТАПІСЕЦ

Пасьвячаю У. Ігнатоўскаму ў дзень пятнаццацёхгодзьдзя яго культурна-грамадзянскай працы на ніве Беларускай.

*Пад нашэпты пушчаў-бораў,*
*Пад напевы завірухаў*
*Летапісец творыць творы,*
*А ты слухай, шчыра слухай.*

*Беглі векі, як ручаі,*
*Паміж нашых сьцежак, межаў,—*
*Чужаніца байкі баіў,*
*А ён толькі праўду рэжа.*

*Як жылі, як вечавалі,*
*Як пасьля былі ў прыгоне,*
*Адаб'е, як у крышталі,*
*Летапісец наш сягоньня.*

*Думкі мудрыя ён піша,*
*Нібы пацеркі з бурштынаў,—*
*Як пазбыцца лішніх крыжаў,*
*Як падняць дабро краіны.*

*Вызначае шлях наперад —*
*Дзе, кудой ісьці нам лепей,*
*Каб ня ўпалі зноў у нерад,*
*Каб палон не ашчарэпіў.*

*І ўзбуялі нашы людзі,*
*Пачалі ўвысь голаў высіць...*
*Зручна жыць на сьвеце будзе,*
*Калі ёсць свой летапісец!*

Менск, 12 XI—24 г.

# ДЗЕНЬ ЗЯМЛІ - 91



Ужо другі год на Беларусі праводзіцца акцыя «Дзень Зямлі». У мінулым годзе ініцыятарамі гэтай акцыі з'явіліся хлопцы з суполкі «Світанак» Беларускага тэхналагічнага інстытута. Па вуліцы Кіжаватава ў Мінску было высаджана 350 дрэўцаў, каля драматычнага тэатра ў Бабруйску — 70, столькі ж на вуліцы Беларускай у Мінску.

Гэтым разам першую акцыю 4 красавіка г.г. правяла маладзёжная арганізацыя «Выбранецкія шыхты». Менавіта да гэтай падзеі «выбранцы» падрыхтавалі плакат «Дзень Зямлі. 23 сакавіка — 22 красавіка», у якім, між іншым, было запісана: «Спрадвеку чалавек на месцы свайго пасеўшча садзіў дрэвы, і рабіў ён гэта не па загаду, не па прымусу. Садзіў, бо ведаў: дрэва — гэта жыццё. Ніводная беларуская вёска, ніводнае мястэчка ніколі не абыходзіліся без дрэў, гэтай стрункай прыгажосці, спакою, выратавальнага ценю, нашых простых чалавечых пачуццяў. А зараз нашыя гарады паліць сонца, ад пылу ды атрутных газаў цяжка дыхаць. А колькі вольнае зямлі! Дык давайце адродзім гэты добры звычай нашых продкаў».

І вось яшчэ 150 маладых дрэўцаў загайдалі галінкамі на ветры. Грошы на закупку іх у гадавальніку выдзеліў Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр (дырэктар Уладзімір Колас). Аўтамабіль даў рэктар БТІ Іван Жарскі.

Ігар МІХНО,
сябра маладзёжнае арганізацыі «Выбранецкія шыхты».

## З рэдакцыйнай пошты

### У ДОБРЫ ШЛЯХ

Намаганні рады ТБМ у Гродне і ўсёй грамадскасці старажытнага горада не прапалі марна: тут нарэшце ў Гродзенкім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы адкрыўся факультэт беларускай філалогіі і культуры. А гэта значыць, што ствараецца навуковы і метадычны цэнтр беларускай культуры ў Прынямонні.

Павіншаваць гродзенцаў з падзеяй прыехалі шаноўныя госці з Мінска і Польшчы. Вядомы літаратуразнаўца, кіраўнік Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс, як заўсёды, выступіў дасціпна і трапна, выказаў свае пажаданні новаму факультэту.

Прадстаўнік беларусаў з Беластоцкага ваяводства, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) у Польшчы Алесь Баршчэўскі таксама ўскладае немалыя надзеі на новы факультэт і спадзяецца, што кантакты з Гродзеншчынай будуць мацавацца.

Малады дэкан новага факультэта Ігар Жук, мяркуючы па тым, як ён узяўся за справы, планаў мае багата. Як сказаў І. Жук у сваім выступленні на ўрачыстасці адкрыцця, факультэт беларускай філалогіі і культуры будзе рыхтаваць для нашай рэспублікі спецыялістаў з шырокім кругаглядам, глыбокімі ведамі па нацыянальных традыцыях музыкі і жывапісу, асаблівасцях архітэктуры і геральдыкі Беларусі. На факультэце будуць дзейнічаць навуковыя лабараторыі, студыі мастацкага слова і народных промыслаў, творчыя майстэрні, літаратурная гасцёўня.

Планы велізарныя, і ад задумкі да здзяйснення — дыстанцыя немалая. Але праблемы, што ўжо з'явіліся перад І. Жуком і выкладчыкамі новага факультэта, думаецца, можна пераадолець. Дзеля вялікай задачы — нацыянальнага адраджэння.

Міхаіл ДУБРАВІН.
г. Гродна.

## ЗНАЎЦЫ РОДНАГА СЛОВА

(ВЫНІКІ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ АЛІМПІЯДЫ)

Пяць дзён у Брэсце праходзіла VII рэспубліканская алімпіяда вучняў IX—XI класаў па беларускай мове. У алімпіядзе бралі ўдзел зборныя каманды ўсіх абласцей рэспублікі, а таксама каманды горада Мінска, госці з Гайнаўскага ліцэя, што на Беласточчыне. Берасцейцам, праўда, як гаспадарам алімпіяды было дазволена выставіць дзве каманды — вобласці і зборную горада.

Праграма рэспубліканскага форуму была традыцыйнай. Яна складалася з лінгвістычнага конкурсу, дзе былі ўключаны пытанні па ўсіх раздзелах беларускай мовы як дысцыпліны, пісьмовага водгуку на апавяданне ці верш, а таксама вуснага паведамлення на адну з прапанаваных тэм.

Сярод вучняў дзевятага класа вынікі наступныя: першае месца — Паўлава Зоя (Фарынаўская СШ, Полацкі раён), другое — Ардынец Вольга (Тарноўская СШ, Лідскі раён), Шыманская Ірына (СШ № 11, г. Баранавічы), Цімашчук Жанна (СШ № 18, г. Віцебск), трэцяе — Юроўская Наталля (СШ № 3, г. Ганцавічы), Пашкевіч Наталля (Рубельская СШ, Столінскі раён). У дзесятым класе перамогу атрымала Качко Іна (СШ № 11, г. Гродна), другое — Карунас Святлана (Мокраўская СШ, Пружанскі раён), Кутас Аксана (Шашкоўская СШ, Стаўбцоўскі раён), Салаўёва Марыя (ліцэй пры БДУ імя У. І. Леніна), трэцяе — Ратабыльская Галіна (Сакольніцкая СШ, Крычаўскі раён), Кадоўба Вольга (СШ № 12, г. Маладзечна), Кабелка Наталля (СШ № 56, г. Мінск).

У выпускным класе першае месца заняла Сячэйка Святлана (СШ № 11, г. Гродна), другое — Рыбінская Святлана (Турэц-Баярская СШ, Маладзечанскі раён), Ляўковіч Алена (Валмянская СШ, Дзяржынскі раён), трэцяе — Мышкевіч Вольга (СШ № 11, г. Гродна), Сашко Таццяна (СШ № 3, г. Беразіно), Герцык Наталля (Дастоеўская СШ, Іванаўскі раён).

Пераможцы і прызёры рэспубліканскай алімпіяды былі ўзнагароджаны дыпломамі адпаведных ступеняў, каштоўнымі падарункамі.

Журы алімпіяды адзначыла ўзнагародамі тых удзельнікаў спаборніцтваў, якія атрымалі вышэйшыя адзнакі ў кожным з трох (лінгвістычны конкурс, пісьмовы конкурс (водгук), вуснае паведамленне) відаў. У лінгвістычным конкурсе адзначаны (у парадку ўзрастання класаў — IX, X, XI): Новік Жанна (гімназія, г. Салігорск), Пахутка Марына (СШ № 11, г. Гродна), Дубінец Таццяна (СШ № 1, г. Дзяржынск); пісьмовы водгук — Брэчка Лізавета (СШ № 2, г. п. Смілавічы, Чэрвенскі раён), Фамёнак Святлана (Старасельская СШ, Ушацкі раён), Кісялевіч Таццяна (СШ № 2, г. Шуміліна); вуснае паведамленне — Шулякоўская Кацярына (СШ № 71, г. Мінск), Усава Таццяна (СШ № 140, г. Мінск), Кавалёва Наталля (Крапівенская СШ, Аршанскі раён).

Лепшых вынікаў сярод школьнікаў з Польшчы дабілася Корх Хрысціна (ліцэй, г. Гайнаўка).

У агульнакамандным заліку наперадзе ідзе зборная каманда Гродзенскай вобласці, далей Мінская і Брэсцкая.

У свабодны ад спаборніцтваў час удзельнікі алімпіяды наведалі крэпасць-герой, краязнаўчы музей, музей выратаваных каштоўнасцей; для вучняў былі арганізаваны вечары адпачынку.

Раз'ехаліся ўдзельнікі, каб праз год сустрэцца ўжо на наступнай алімпіядзе, якая адбудзецца ў Віцебску.

Уладзімір БАРЫСЮК,
старшы выкладчык Брэсцкага педінстытута,
член журы рэспубліканскай алімпіяды.

## *Старыя беларускія гімназіі*

# У КЛЕЦКУ, НА ВУЛІЦЫ ТАТАРСКАЙ

***Працягваем аповяд пра старыя беларускія гімназіі, распачаты ў нумары 6, успамінамі Анатоля ІВЕРСА «Змаганне за роднае слова»..***

У 1929—1931 гадах мне давялося вучыцца ў Клецкай беларускай гімназіі. Наша гімназія знаходзілася на Татарскай вуліцы ў прыватным аднапавярховым доміку, які арандавала дырэкцыя. Займаліся ў некалькі змен.

Гісторыя яе наступная: у 1924 годзе Таварыства беларускай школы дабілася ад польскага ўрада дазволу адкрыць прыватную беларускую гімназію ў горадзе Нясвіжы, але тутэйшы павятовы староста не даў на гэта дазволу. Згадзіліся ў Клецку. Гімназія матэрыяльнай дапамогі не мела і існавала толькі на сродкі, атрыманыя ад платы навучэнцаў. Але ж якія сродкі былі ў незаможных беларускіх сялян і рабочых? Так што матэрыяльнае становішча гімназіі было вельмі цяжкае, настаўнікі атрымлівалі малую зарплату. Вучні таксама ўтрымліваліся на сродкі, якія прысылалі бацькі з дому. Прывозілі сала, мяса, сухары.

Трэба адзначыць, што задобрыць нас стараліся рэлігійныя секты. Адна ўтрымлівала за свой кошт наш інтэрнат. Узамен запрашалі хадзіць на малебны. Вучні ў суботу і нядзелю збіраліся там, спявалі рэлігійныя песні, а калі вярталіся ў інтэрнат, пачыналі сваё, напрыклад: «Мы не паклонімся богу, бога стварыў чалавек».

Толькі дзякуючы самаадданай асветніцкай справе такіх людзей, як дырэктар гімназіі Рыгор Усцінавіч Якубёнак, настаўнікі Вячаслаў Міхайлавіч Арэнь, Антон Міхайлавіч Валынчык, Аляксей Васільевіч Кішкель, Мікалай Чарнецкі і іншыя, беларуская гімназія ў Клецку магла існаваць.

Дырэктар не толькі кіраваў дзейнасцю школы, вучобай, але і вёў адміністрацыйна-гаспадарчыя работы: улічваў грошы ад вучняў, выплачваў зарплату настаўнікам, купляў паліва, школьныя прылады, аплачваў за памяшканне, вёў іншыя фінансавыя аперацыі. Гэта быў здольны і працавіты чалавек, ён пад час канікул сам рабіў школьную мэблю, прычым вельмі акуратна, па-майстэрску.

Дырэктар Р. У. Якубёнак карыстаўся аўтарытэтам сярод настаўнікаў і вучняў. Я ўдзячны яму асабіста за тое, што зараз яшчэ жыву.

Справа вось у чым. Калі ў 1931 годзе гімназію закрылі, я і мой калега Іван Свяртока з вёскі Каленікі хацелі перайсці граніцу, каб працягваць вучобу ў Савецкім Саюзе. Аб гэтым параіліся з Якубёнкам. А ён нам кажа: «Хлопчыкі, што вы задумалі? Не ведаеце, што там робіцца, вас пасадзяць, прападзяце, уцякайце з-пад граніцы». І мы яго паслухалі.

У гімназіі ўсе прадметы, за выключэннем польскай мовы і гісторыі Польшчы, вяліся на беларускай мове, нават выкладчык польскай мовы, па нацыянальнасці паляк, карыстаўся ў размове з настаўнікамі беларускай мовай.

Мы з вялікай цікавасцю засвойвалі веды. Ніхто нас не прымушаў да вучобы. Самі ўсведамлялі неабходнасць вучыцца.

Вучням прывівалася любоў да свайго народа, да сваёй мовы. Быў арганізаваны літаратурны гурток, чыталіся творы беларускіх, рускіх, польскіх і другіх пісьменнікаў. Сярод насельніцтва вялася таксама культурна-масавая работа. Быў арганізаваны гурток ТБШ, сіламі вучняў у Клецку і ў вёсках ставіліся п'есы «Паўлінка», «Модны шляхцюк», «Птушка шчасця», «Апошняе спатканне» і іншыя. Мы выступалі з канцэртамі.

У 1929 годзе ў Клецкую гімназію прыбыла група вучняў (каля 30 чалавек) з Віленскай беларускай гімназіі, звольненых дырэктарам Радаславам Астроўскім — у будучым здраднікам, які супрацоўнічаў з нямецка-фашысцкімі акупантамі.

Сярод прыбыўшых хочацца ўспомніць навучэнцаў з Гродзенскай воласці. Гэта Іван Шыцік, Уладзімір Мазоль, Аляксандр Шыдлоўскі, Іван Дарафеевіч Міско (Анатоль Іверс), Іван Герасімавіч Міско, Мікалай Бурсевіч, Мікалай Мароз, Аляксандр Жыткевіч, Міша Літвін, Піліп Маслоўскі, Антон Міскевіч, Мікалай Сінько, Іван Свяртока, а таксама аўтар гэтых радкоў.

Мы былі выключаны з гімназіі за ўдзел у забастоўцы пратэсту супраць суда над дзеячамі Беларускай сялянска-рабочай грамады.

Дырэктар Якубёнак, будучы беларускім патрыётам, без агаворак прыняў усіх. Віленскія таварышы ўнеслі сюды новы дух, у гімназіі пачала больш актыўна весціся падпольная рэвалюцыйная работа, яна ахапіла не толькі вучэбную ўстанову, але і навакольныя вёскі.

Арганізоўваліся чыткі як легальнай, так і нелегальнай літаратуры рэвалюцыйнага зместу. Чыталіся прагрэсіўныя беларускія газеты. Пачалі стварацца камсамольскія падпольныя ячэйкі.

У раёне Клецка па вёсках сярод насельніцтва стала распаўсюджвацца падпольная літаратура рэвалюцыйнага зместу. Навучэнцы пад час канікул пераходзілі савецка-польскую граніцу (яна знаходзілася за сем кіламетраў ад мястэчка). Адтуль прыносілі савецкія газеты, часопісы, кнігі.

Значна ажывілася рэвалюцыйная дзейнасць у гімназіі. Польская паліцыя і дэфензіва пры дапамозе сваіх канфідэнтаў раскрыла дзейнасць нашых актывістаў. Імі былі Аляксандр Шыдлоўскі, Іван Шыцік, Уладзімір Мазоль, Іван Міско. (Дарэчы, Іван Шыцік з вёскі Пыхоўчыны, што на Бераставіччыне, быў маім першым настаўнікам у 1927 годзе, рыхтаваў мяне па беларускай мове для паступлення ў Віленскую гімназію). Восенню 1929 года па патрабаванню паліцыі яны былі выключаны з гімназіі. У знак пратэсту вучнямі была аб'яўлена забастоўка. Вучні другой змены (старшыя класы) сабраліся ў адным з класных пакояў і патрабавалі ад дырэкцыі адмяніць рашэнне педсавета. Калі дырэктар не згадзіўся на гэта, пачалі выкрыкваць антыдзяржаўныя лозунгі: «Далоў фашысцкі ўрад», «Далоў паліцыю», спявалі беларускі тагачасны гімн «Адвеку мы спалі, і нас разбудзілі», забаракадавалі партамі дзверы. Прыбыла паліцыя і разагнала забастоўшчыкаў. Польскія ўлады звольнілі дырэктара Р. У. Якубёнка і назначылі новага — настаўніка з Віленскай беларускай гімназіі Макарэвіча. Ён аказаўся добрым чалавекам, не перашкаджаў Якубёнку па-ранейшаму кіраваць усёй вучэбнай і гаспадарчай работай, але ў хуткім часе выехаў у Вільню.

Над Клецкай гімназіяй навісла пагроза закрыцця. Прычынай для гэтага была вучнёўская антыдзяржаўная забастоўка, узды рэвалюцыйнай дзейнасці сярод насельніцтва, блізкасць да граніцы з СССР.

Каб уратаваць гімназію, ТБШ направіла дэлегацыю з прадстаўнікоў бацькоўскага камітэта ў Варшаву да прэзідэнта. У яе склад ад беларускага камітэта ўвайшлі Аляксандр Сідаровіч і Іван Кульбяка, а таксама студэнты Віленскага універсітэта Русак і Станкевіч. Масціцкі прыняў дэлегацыю, выслухаў патрабаванні, пасля чаго заявіў, што ён згодны зацвердзіць гімназію ў Клецку і даць ёй большыя правы, аказаць матэрыяльную дапамогу, але выкладанне ў гімназіі весці толькі на польскай мове.

На гэтую прапанову прэзідэнта дэлегаты не згадзіліся, не згадзіліся таксама бацькоўскі камітэт і педсавет. Так Клецкая беларуская гімназія праіснавала толькі да жніўня 1931 года. Польскай дэфензіве ўдалося выкрыць падпольную дзейнасць вучняў гімназіі — было арыштавана больш за 30 чалавек. Гімназія была закрыта.

Мне ўдалося ўстанавіць лёс нашых настаўнікаў. На педагагічную работу паступіць яны не змаглі, польская санацыйная ўлада не дала ім дазволу.

Будучыня вучняў была вельмі складанай. Мала хто змог працягваць вучобу. Хлопцы раз'ехаліся па сваіх вёсках да бацькоў, некаторыя пайшлі працаваць рабочымі. Але большасць клецкіх гімназістаў не адракліся ад рэвалюцыйнай работы, некаторыя былі замучаны ў засценках дэфензівы, палеглі на палях баёў з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Многія ўцяклі ў Савецкі Саюз, але лёс іх аказаўся вельмі цяжкім. Іх прынялі варожа, незаконна абвінавацілі ў здрадніцтве і знішчылі. Мой лёс такі: пасля закрыцця гімназіі, закончыўшы 6 класаў, паехаў у родную вёску Алекшыцы, мяне выбралі сакратаром камсамольскай ячэйкі. Быў арыштаваны, адсядзеў два гады ў Гродзенскай турме. Я ганаруся, што клецкія гімназісты ў вадавароце гістарычных падзей з гонарам пранеслі праз жыццё лепшыя чалавечыя ідэалы.

**М. МАКУЛІК,**
**ветэран працы і вайны.**

## *Абразкі* *Абразкі*

# Эканоміка і мова

Многія чытачы, мусіць, заўважылі, што апошнім часам некаторыя беларускія газеты пачалі пісаць і друкаваць:

*ліст напісан, план выканан, дэкрэт прынят.*

Мы пацікавіліся ў аднаго афіцыйнага мовазнаўцы: «Чаму так? Як нам здавалася, па-беларуску больш мілагучна і больш меладычна: *ліст напісаны, план выкананы, дэкрэт прынятыя*».

Поўная форма канчатка — гэта адна з такіх асаблівасцей нашай мовы, якая і надае ёй напеўнасць, мілагучнасць.

Дык вось, той мовазнаўца адказаў: «Патрэбы ў кароткай форме асаблівай няма. Проста дзеля эканоміі».

Вось так — эканомія ўрываецца ў мову. І эканоміць прапануюць ніхто іншыя, як некаторыя мовазнаўцы.

Мабыць жа, з гэтых меркаванняў і ва ўказальным займенніку жаночага роду тыпу *гэтую дзяўчынку, гэтую бярозку, гэтую хвілінку* скарачаюць апошнюю літару ў канчатку і пішуць: *гэту дзяўчынку, гэту бярозку*. Найчасцей так пішуць газеты «Мінская праўда», «Чырвоная змена», «Звязда».

Мы так разгаварыліся з тым мовазнаўцам пра эканомію ў мове, што я і сам прапанаваў пакарацыь шэраг слоў. Паглядзіце, кажу, нашы слоўнікі. Колькі там груваcткіх слоў. Вось, напрыклад: *добрасумленны, добраўпарадкаваны, добразычлівы, добрасардэчны, добрапрыстойны*. А навошта тут тое *добра*? Сумленны — гэта і ёсць сумленны, зычлівы — гэта і ёсць зычлівы, добры чалавек. Упарадкаваны — гэта ёсць упарадкаваны, дзе ўсё ў парадку, дагледжана. Ну, а калі я пра чалавека скажу, што ён сардэчны, няўжо я гэтым словам не данясу тое, што хачу сказаць. Няўжо абавязкова казаць «добрасардэчны»?

Нічога мне на гэта той мовазнаўца не сказаў, толькі ўсміхнуўся ды штосьць пра стыль невыразнае буркнуў. А мяне дык прарвала. Я яшчэ і яшчэ сыплю. Калі вы за эканомію, то чаму тады замест аднаго слова, скажам, «кросны», газеты пішуць «ткацкі станок», замест «алей» — «поснае масла», замест слова «кіт» — «аконная замазка», «шыбіна» — «аконнае шкло», «баравік» — «белы гры6»...

Дзе ж тут тая эканомія?

# Слова енчыць, абураецца

«Настаўнік прыцягнуў вучняў у гурток».

Так пішуць газеты. Так гавораць многія журналісты. Так пачалі пісаць і некаторыя ўжо пісьменнікі.

Вучняў прыцягваюць у гурткі, студэнтаў прыцягваюць да навукова-даследчай працы...

Чытаеш такое, слухаеш і хочацца сказаць: «Людцы добрыя! Няўжо вы не адчуваеце, што словы ў гэтых спалучэннях карабацяцца, выгінаюцца, енчаць, не хочуць і не могуць стаяць поруч. Падумайце, навошта той занятак ці той гурток, у які вучняў ці студэнтаў прыцягваюць, а не проста запісваюць і прывабліваюць...».

Прыцягваць да нечага, як нам здаецца, можна толькі сілаю, прымусам. Прыцягнуць да адказнасці — гэта зразумела. А вось прыцягнуць вучняў на занятак ў гурток — хай бог крые і той гурток, і тых, хто ў яго прыцягвае, а не прываблівае. Добра, калі «прыцягнутыя» палюбяць той занятак, да якога іх прыцягнулі. А калі яны так і застануцца прыцягнутыя? То лепш, мабыць, усюды прываблівацъ да нечага, а не прыцягваць.

Прывабіць — гэта вельмі высакародна. І галоўнае ў гэтым слове — нязмушанасць, дэмакратычнасць дзеяння. Нарэшце, яно цалкам адпавядае рускаму слову «увлекать».

Да сказанага хацелася б дадаць вось што. Нашы слоўнікі ўсё ж размяжоўваюць, дыферэнцыруюць лексічныя значэнні слоў «прыцягваць» і «прывабліваць».

Чытаю слоўнікавы артыкул з перакладнога слоўніка: увлекать — прывабліваць, спакушаць.

І тут жа: увлекать (тащить) — цягнуць, уцягваць, зацягваць, прыцягваць.

Як бачым, усё тут размежавана. Нашым журналістам застаецца толькі ўдумліва карыстацца слоўнікамі, удумвацца ў тое, што яны пішуць. Усё, што прывабліває ўвагу чалавека, хай і прывабліває. Ну, а калі некага да нечага трэба прыцягнуць, то трэба і прыцягнуць.

Уладзімір СОДАЛЬ.

## *Чыталі?*




**М. І. Ермаловіч. Па слядах аднаго міфа. 2-е выданне. Мінск, «Навука і тэхніка», 1991.**

Першае выданне гэтай кнігі немалым для навуковага даследавання накладам пабачыла свет зусім нядаўна, у 1989 годзе, і адразу стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Праца мужнага вучонага да сустрэчы са сваім чытачом ішла пакутным больш чым дваццацігадовым шляхам. «Фрагменты з яе першага варыянта,— піша ў пасляслоўі да другога выдання навуковы рэдактар А. Грыцкевіч,— былі ў свой час надрукаваны ў адным з рэдкіх акадэмічных выданняў па археалогіі і адразу сустрэлі адпор з боку кансерватыўных беларускіх гісторыкаў, якія нават прапанавалі звярнуцца ў ЦК КПБ з афіцыйным лістом, каб забараніць М. Ермаловічу друкаваць свае творы. Нягледзячы на гэта, М. Ермаловіч, жывучы ў Маладзечне, больш за два дзесяткі гадоў амаль штодня ездзіў у Мінск, прыходзіў у Беларускі аддзел Дзяржаўнай бібліятэкі БССР і працаваў над сваёй кнігай».

На аснове дэталёвага аналізу гістарычных і іншых матэрыялаў даследчык асвятляе пытанне пра ўтварэнне ў 50—60-х гадах XIII стагоддзя Вялікага Княства Літоўскага, абвяргаючы міф пра заваёў беларускіх земляў літоўцамі. Канцэпцыя М. Ермаловіча дае магчымасць чытачу па-новаму асэнсаваць падзеі нашай далёкай мінуўшчыны.

## *Пытанне — адказ*

# Як знайсці БНФ?

Паважаная рэдакцыя, я з'яўляюся падпісчыкам газеты «Наша слова». Маю да вас просьбу: прышліце нам адрас арганізацыі Беларускага Народнага Фронту, нашыя вяскоўцы вельмі хацелі б мець сувязь з гэтай арганізацыяй і аказваць ёй дапамогу.

**М. РОЎДА з вёскі Завушша Нясвіжскага раёна.**

Гэты ліст наш карэспандэнт прачытаў адказнаму сакратару Мінскай гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэнне» Генадзю Банкевічу і пачуў адказ:

— Пакуль што рэспубліканская арганізацыя БНФ не мае сталага адрасу. Яна яшчэ не зарэгістравана. Таму звяртацца лепей у Мінскую гарадскую арганізацыю, якая зарэгістравана рашэннем гарвыканкома горада Мінска напрыканцы мінулага года. Гарадская арганізацыя мае сваю пячатку; адкрыты рахунак у камерцыйным банку «Мікабанк» горада Мінска (рахунак 700318/803, код 400417). Той, хто жадае мець сувязі з Народным Фронтам, няхай тэлефануе мне дахаты па тэлефоне 52-82-25 або піша па адрасе: 220015, г. Мінск, 15, вул. Бельская, д. 61, кв. 18, Генадзю Уладзіміравічу Банкевічу.

*Чытач — літаратура*

# Некалькі гадзін у кнігарні «Светач»

Тут заўсёды людна. З аднаго боку, трэба адзначыць, што кніжны бум, які пачаўся ў першыя перабудовачныя гады, аціхае. Ужо можна пабачыць, як патроху залежваецца тое, што ў сярэдзіне сямідзесятых мільгала толькі на чорным кніжным рынку. Ды і цяперашні кніжны бум істотна адрозніваўся ад папярэдніх. Многім помніцца, як высока ўзляцела ў час «хрушчоўскай адлігі» цікавасць да вершаў, у чытацкія аўдыторыі выйшлі «фізікі-лірыкі», даўшы пачатак эстраднай паэзіі. У наш час эстраду замяніла мітынговая пляцоўка. Жыццё рэзка палітызавалася, стала не да лірыкі. Адпаведна на першы план выйшла так званая дысідэнцкая літаратура. Балазе было чаму выходзіць! Белыя плямы гісторыі пакінулі і белыя плямы ў літаратуры. Чытач накінуўся на імёны, якія яшчэ зусім нядаўна вымаўляліся шэптам. І вось ужо многія старонкі, раней невядомыя, прачытаны. Што далей? Рынак пакуль яшчэ нам невядомы! Чым абернецца ён для беларускай літаратуры? Маю на ўвазе многае: і становішча з роднай мовай, калі на працягу дзесяцігоддзяў беларускі пісьменнік быў фактычна ўнутраным эмігрантам на сваёй зямлі, і эканамічны крызіс, які са страшнай сілай агаліў бездухоўнасць грамадства. А з другога боку, у чым можна папракнуць самага заўзятага чытача, які яшчэ дзесяць гадоў таму назад за чатыры цаны купляў на чорным кніжным рынку патрэбную кніжку, а зараз за тыя ж чатыры цаны ўжо на другім чорным рынку вымушаны купляць, скажам, дзіцячыя туфлікі? Калі мы выйдзем з гэтага? Па-мойму, пакуль не ў стане адказаць ніводзін ні эканаміст, ні палітык. І ўсё ж, сапраўды, чытач не знік у чэргах за соллю. Ён ходзіць побач, бярэ ў рукі то адну, то другую кніжкі, ад нечага адмаўляецца, а нешта і купляе. Значыцца, ёсць творы, ёсць кніжкі, якія яму патрэбны нават у наш «смутны» час. Пра іх, хто як не самі пакупнікі, лепш за ўсё і скажуць:

**Будрык Святаслаў** — урач, мінчанін. Цікавіцца творамі В. Быкава, Ул. Караткевіча, А. Адамовіча, С. Алексіевіч. Гэтых аўтараў чытае і ў перакладзе на рускую мову, і ў арыгінале. Праблем з беларускай мовай няма, галоўнае, каб было добра напісана. Што тычыцца паэзіі, дык яна не цікавіць, як жанр, хоць, магчыма, і ёсць вартыя імёны.

**Бурак Ганна** — пекар аднаго з мінскіх хлебабулачных магазінаў. Беларускую літаратуру не чытае. Чытала раней, калі вучылася ў вясковай школе, у асноўным праграмныя творы, з якіх запомніліся кніжкі М. Лынькова. Цяпер жа ёсць складанасці з мовай. Сэнс, увогуле, разумее, а вось словы — не ўсе. Калі б дзеці вучылі беларускую мову з першага класа, кажа яна, дык з маленства з'яўлялася б і цікавасць да роднай літаратуры.

**Раманава Вера** — майстар вытворчага навучання ПТВ-46, г. Віцебск. Ніколі нікога з беларускіх пісьменнікаў не чытала, акрамя Ул. Караткевіча ў перакладзе на рускую мову. Лічыць, што ў гэтым вінавата школа. Якое было стаўленне да беларускай літаратуры, такі вынік і атрымаўся. Задаволена, што адкрываюцца беларускамоўныя школы.

**Жыгамонт Мікалай** — настаўнік гісторыі, школа № 128, г. Мінск. Набыў нядаўна і з задавальненнем прачытаў М. Ермаловіча «Старажытная Беларусь», не прамінае кніжак Ул. Арлова, быў захоплены Шэкспірам у перакладзе на беларускую мову. Пастаянна чытае часопіс «Маладосць», у мінулым годзе быў чытачом і часопіса «Крыніца», зараз жа адштурхоўвае тое, што залішне многа эротыкі ў гэтым выданні. Лічыць: тым, хто жыве на Беларусі, сорамна не ведаць беларускай мовы, а беларускую літаратуру, безумоўна, трэба чытаць толькі ў арыгінале.

**Садоўскі Іван** — выкладчык вучэбнага цэнтра пажарнай аховы МУС, г. Мінск. Беларускіх пісьменнікаў чытае, а вось размаўляць на беларускай мове ўжо цяжка. З прачытанага запомніліся кніжкі В. Быкава, А. Адамовіча, Я. Брыля, К. Чорнага, І. Шамякіна, М. Лынькова, А. Кулакоўскага. Нядаўна набыў кніжкі А. Рыбака «Трэба было жыць» і В. Гігевіча «Марсіянскае падарожжа».

**Шалушкін Юрый** — будучы кухар, ПТВ-221, г. Мінск. Набыў бы, каб сустрэў, кніжку баек К. Крапівы. Зрэдку чытае В. Быкава. Стараецца чытаць на беларускай мове. Лічыць, што пераклады на рускую гэта ўжо зусім не тое.

**Чумак Любоў** — тэхнолаг, супрацоўніца выдавецтва «Полымя», г. Мінск. Трэба дасканала ведаць мову, кажа яна, каб чытаць па-беларуску. Па нацыянальнасці сама ўкраінка, але беларускіх аўтараў чытае ў арыгінале. Любіць творы Ул. Караткевіча, вершы М. Багдановіча, Г. Бураўкіна. З задавальненнем прачытала раман у вершах Ліны Кастэнка «Маруся Чурай» у перакладзе на беларускую мову.

**Высоцкі Аляксандр** — аператар завода аўтаматычных ліній, г. Мінск. Класіку прачытаў у школе. Цяпер аддае перавагу сучаснай літаратуры. Чытае ў асноўным прозу. Кніжкі беларускіх пісьменнікаў купляе даволі часта, з апошніх запомнілася кніжка А. Рыбака «Трэба было жыць».

Зыходзячы з гэтых адказаў на мае пытанні, вядома, пакуль цяжка сказаць, чые ж творы выклікаюць найбольшую цікавасць у чытачоў, але галоўнае, што яна ўсё-такі ёсць. Рэдакцыя «Нашага слова» мяркуе і далей друкаваць матэрыялы пад рубрыкай «Чытач — літаратура». У наступным нумары сваімі думкамі падзеляцца работнікі кніжнага гандлю. Запрашаем выказаць свой погляд на сучасную беларускую літаратуру работнікаў бібліятэк, настаўнікаў і студэнтаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца мастацкім беларускім словам.

Раіса БАРАВІКОВА,
г. Мінск.

# Дробна драбніца, але дарагая

**Жыццё Міколы Язэпавіча Лазара не назавеш лёгкім. Ужо семдзесят за плячыма. І хоць даўно ўжо не селянін, але з роднай вёскай Баранцы, што на Вілейшчыне, ён душой не расстаецца. Яшчэ пры Польшчы малады Мікола Лазар вучыўся ў вілейскай друкарні на наборшчыка і радаваўся свайму далучэнню да культуры друкаванага слова.**

**Пасля вайны ён працаваў у Астраўцы, дзе, дарэчы, праходзіў практыку тады яшчэ студэнт Адам Мальдзіс. Потым Мікола Лазар многія гады працаваў у маладзечанскай друкарні. З прыемнасцю згадвае сумленных і вельмі інтэлігентных журналістаў Бенядзікта Яблонскага, Алеся Бараноўскага і іншых людзей, каму любая родная мова. У адрозненне ад многіх сялян і рабочых Мікола Лазар не лічыць, што справа абароны нацыянальнай культуры з'яўляецца толькі справай інтэлігенцыі. Ён і сам змагаецца за яе адраджэнне.**

**Чаму?.. Задаваў і задае сабе пытанне Мікола Лазар. Памятаю, як яшчэ гадоў 25 назад прыходзіў да мяне ў музей з жальбай, што маладзечанскі начальнік міліцыі фактычна не дазволіў выпісаць пашпарт на беларускай мове. Лазарава «чаму?» прыняў за абразу. Як жа: той вызваляў Беларусь, а Мікола Язэпавіч просіць яшчэ і мову родную абараніць. У пашпартным стале сядзела тады жанчына з Варонежа, якая таксама не ведала беларускай мовы.**

**А Мікола Язэпавіч звяртаўся ў высокія інстанцыі і настойваў на сваім канстытуцыйным праве. Сітуацыя склалася тупіковая, і столаначальніца з пагардай кінула: «Сам выпісвай». І рабочы ў новым пашпарце вывеў: «Лазар Мікола Язэпавіч». Такая ж гісторыя паўтарылася пасля з М. І. Ермаловічам ды і са мной, пакуль у мясцовай міліцыі не памянялі кадры.**

**Гэтыя і іншыя выпадкі проста абуралі сумленнага наборшчыка з друкарні. Як толькі ён пачуў, што ў Валожыне ўсё падрыхтавана для выпуску раённай газеты на рускай мове, тут жа адправіўся туды і пачаў угаворваць рэдактара Кірухіна выпускаць газету па-беларуску. Але довады не падзейнічалі, дык ён сабраў подпісы людзей пад просьбаю выдаваць газету на роднай мове і дабіўся свайго: газета пайшла па-беларуску, а Кірухін мусіў пакінуць Валожын.**

**Любоў да роднага слова, да народнай памяці прадаўжала жыць у Міколы Язэпавіча. Ён стаў запісваць легенды і паданні пра геаграфічныя назвы. Сабраў песні сваёй мясцовасці, а таксама ўспаміны пра розныя гістарычныя падзеі. Яго абурала аднастайнасць імёнаў, якія давалі дзецям бацькі. Мікола Язэпавіч узяўся за такую справу, як складанне слоўніка беларускіх народных імёнаў ад *А* да *Я*. Гэта работа амаль завершана. Вядома, патрэбны кансультанты і практычная дапамога навукоўцаў. Пільна сочыць ён і за працамі нашых этнографаў, пакуль што ў яго больш абурэння, чым задавальнення. Узяўся ён і за такую справу, як слоўнік даўніх беларускіх прафесій. Іх аказалася безліч. Я сам не даўмеўся б ніколі, што іх набярэцца на цэлы зборнік. Але вось трымаю ў руках яго першы варыянт. Паказаў той сціплы па знешняму выгляду рукапіс Яўгену Сахуту, і ён таксама быў уражаны багаццем сабранага.**

**М. Я. Лазар даўно выступае ў друку са сваімі краязнаўчымі замалёўкамі, пераважна пра свае Баранцы і ваколіцы. Пісаў ён пра Галодныя Магіліцы — урочышча ў лесе, дзе ў мінулыя стагоддзі былі пахаваны людзі, якія памерлі ад голаду і ад чумы. У акадэмічным томе народнай творчасці «Пахаванні. Памінкі. Галашэнні» (укладальнік У. А. Васілевіч) змешчана шмат тэкстаў Міколы Лазара. Нераўнадушны да роднай спадчыны, ён па-ранейшаму жыве клопатам за яе захаванне. Не спынілі гэтага добрага імпэту і гады, якіх ужо назбіралася амаль семдзесят. Няхай жа і надалей баліць яму душа за роднае слова, за памяць Бацькаўшчыны.**

Генадзь КАХАНОЎСКІ.

*І смех і грэх*

## ДЫЯЛОГІ НА ВЯСКОВАЙ ЛАЎЦЫ



— Я во гляджу, Маня, нешта ты рана з горада вярнулася. Яшчэ і вясна ў сілу не ўзялася.

— Вырасце — не вырасце, а сеяць трэба.

— Ой, мусіць, чужына збрыдзела. Як ні круці: свая хатка, як родная матка.

— Пра што ты кажаш! У шпакоўні той зіму пражыла, як у ступе пратаўкла.

* * *

— Нешта Хведарава маладзіца саўсім зблажэла, з твару зліняла. А да замуства такая спраўная была, як лялька!

— Якая жытка, такая і песня. Папажыві з яе свякроўкай — самой вуды падцягне.

* * *

— А ці бачылі вы, бабачкі, якія харомы адгрохаў новы прадсядацель?

— Сляпы стане відушчым ля такога палаца. Як толькі ўправіўся начальнічак: месяц усяго пры пасадзе?!

— Го-о-о! Пусці шчупака ў рэку...

* * *

—Кажуць, Алена, хварэла ты цяжанька?

— А мая ты Зіначка, а мая ты любка, не ўспамінай. Так было прыціснула: хаджу па бальніцы, разгаварваю з дактарамі, а гаварыць не магу.

* * *

— Гэта ж вам, людцы, расказаць — не паверыце. Што ўжо мой меншы вырабіў на базары — не абабрацца сораму.

— Маіць, праз гэта румзаў учора?

— Ужо ж... Падыходзіць да нас адна маладзічка і пытаецца: «Мальчик, а тебе не жалко молочко продавать, вон какой ты худой?» А ён і ляпнуў: «Не, цётачка, купляйце, усё роўна з-пад банкі».

— Ха-ха-ха! Рот — не агарод, не загародзіш.

Учула Любоў ЛАМЕКА.

## АБ'ЯВЫ

### ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Выходзіць з друку факсімільны падручны Расійска-Крыўскі (беларускі) слоўнік В. Ластоўскага, які быў выдадзены ў Коўне ў 1924 г. (832 стар.).

Слоўнік можна будзе набыць у кіёску Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (Ленінскі праспект, 18), у «Кнігарні пісьменніка».

Ад іншагародніх прымаюцца заяўкі па тэл. 33-25-11 або па адрасу: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13, ТБМ. Аднак Таварыства не мае магчымасці высылаць слоўнік.

### Паважаныя чытачы «Нашага слова»!

**Нагадваем тым, хто не падпісаўся на газету Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, што гэта вы можаце зрабіць у арганізацыях «Саюздруку» або ў любым аддзяленні сувязі СССР. Падпісацца можна на астатнія месяцы 1991 года. Індэкс выдання 74975. Кошт аднаго нумара па падпісцы — 5 капеек.**

**Выпісвайце і чытайце «Наша слова»! Дасылайце на адрас рэдакцыі допісы, артыкулы і іншыя матэрыялы, звязаныя з адраджэннем беларускай мовы, нацыянальнай культуры і гістарычнай спадчыны.**

* * *

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны адкрывае двухмесячныя (травень—чэрвень) платныя курсы для абітурыентаў па беларускай мове і літаратуры.

Час, колькасць гадзін будуць вызначацца па меры камплектавання груп.

Даведкі па тэл.: 33-25-11.

### ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

**Паведамляем, што Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны дзеля ажыццяўлення мэтаў, вызначаных Статутам ТБМ па адраджэнні беларускага слова, прымае ахвяраванні ад прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і прыватных асобаў як на Беларусі, так і ў СССР, і за мяжой.**

**Наш цэнтральны рахунак 700510 у Белжылсацбанку.**

**Валютны рахунак 000700704 у Знешгандальбанку СССР.**




Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.714 паасобнікаў. Заказ 2439. Індэкс 74975.